ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 15(5197)
Аўторак,
6 лютага
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 48 руб.*

Слова пра настаўнікаў

## Ёсць за што пахваліць Пахвалёную

***Кожная школа па-свойму адметная. Адметнасць сярэдняй школы №25 Заводскага раёна Мінска ў тым, што яна мае свой уласны, вельмі цікавы этнаграфічны музей, пра які, думаю, варта расказаць больш падрабязна, як і пра яго стваральнікаў і кіраўніка.***

Усё пачалося з таго, што ўлетку 1987 года вучні школы з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Алінай Казіміраўнай Пахвалёнай паехалі ў яе родную вёску Галаўцы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Вельмі гасцінна сустрэлі іх жыхары вёскі, запрашалі ў кожную хату, частавалі, расказвалі шмат цікавага. Вынікам першага паходу стала адкрыццё этнаграфічнага музея ў школе: аснову склалі прывезеныя з Галаўцаў прадметы сялянскага побыту, прылады працы для ткацтва і апрацоўкі льну. Пасля іншых вандровак па беларускіх вёсках у музеі з'явілася лава, прасніца, на якой калісьці пралі доўгімі восеньскімі вечарамі жанчыны, вілкі, чапяла, чыгункі, гліняны посуд, куфар, у якім зберагалі лепшае адзенне. У куточку стаяць жорны. На сценах — ручнікі, прыгожае жаночае ўбранне.

Сціпласць і прастата прадметаў даўняга побыту надае ім асаблівае харасто. Многія рэчы сапраўды рарытэтныя, сабраныя з пыльных гарышчаў сялянскіх хат, павецяў.

След кожнай эпохі бачны не толькі на зямлі. Колькі простага харасства і чароўнага подыху мінуўшчыны ў простых ручніках, драўляным каўшы, гляку. Любоў да культуры свайго народа немагчыма без ведання яго каранёў. Такой думкі прытрымліваецца і кіраўнік музея Аліна Казіміраўна Пахвалёная. Паступова, нібыта па зернетку, даносіць яна гэтую думку ў сэрцы сваіх вучняў. І як паказвае час і вопыт — зерне падае на прыдатную глебу. Варта толькі ўгледзецца ў адметны ўзор, вядомы ў народнай разьбе па дрэве, узор, які існуе нялічана колькі стагоддзяў на Беларусі. А ўзоры ручнікоў, ільняных абрусаў! У прыгожым малюнку можна адчуць залацістыя фарбы жытнёвых палёў, пяшчотную гаму палявых кветак. А дзівосныя вырабы ганчароў! Гэта ж цэлая скарбніца народных казак! А нацыянальныя касцюмы з іх непаўторнымі карункамі, фарбамі квітнеючых садоў Беларусі! Гледзячы на гэтыя творы мастацтва, вучні адчуваюць, што толькі шчырая ўлюблёнасць у сваю зямлю, у харасто родных краявідаў натхняла народных умельцаў на такія творы, і яе завяшчалі яны сваім нашчадкам.

Усяго ў музеі на сённяшні дзень каля 440 экспанатаў — вынік паездак школьнікаў з іх нязменным кіраўніком у вёскі Беларусі, у тым ліку ў вёску Зялёная Дуброва Барысаўскага раёна.

Вельмі часта музей наведваюць госці з Нарвегіі, ЗША, Англіі. Для іх экскурсіі праводзяцца на англійскай мове: у школе № 25 паглыблена вывучаецца замежная мова, таму многія вучні добра валодаюць ёй і здольны быць экскурсаводамі для замежных гасцей.

Цяпер варта расказаць пра стваральніцу і нязменнага кіраўніка музея, настаўніцу вышэйшай катэгорыі Аліну Казіміраўну Пахвалёную.

Высокі прафесіяналізм, выключная працаздольнасць, імкненне да пастаяннага ўдасканалення свайго прафесійнага майстэрства — вось што характарызуе Аліну Казіміраўну.

Аліна Казіміраўна — ініцыятар многіх творчых спраў. На базе школьнага этнаграфічнага музея працуе гуртοк "Спадчына", удзельнікамі якога з'яўляюцца вучні 8 "А" класа. Яны часта выступаюць з паказам народных абрадаў, такіх, як "Кірмаш", "Гуканне вясны", "Масленіца", "Каляды", "Вячоркі". Вучні ажыццявілі пастаноўку камедыі Я.Купалы "Паўлінка", М.Чорнага "Мікітаў лапаць", "Ажаніцца — не журыцца". Выступалі ў Палацы культуры МАЗа, у "Золаку", ва універсітэце імя М.Танка, у педкаледжы, у інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, у школе перад бацькамі, вучнямі, гасцямі школы. Многія выступленні адзначаны ўзнагародамі. Вынікі сваёй працы дзеці і іх настаўніца падводзяць на нетрадыцыйных бацькоўскіх сходах, якія праходзяць пад назвай "Вячоркі каля самавара".

Цікава праводзіць Аліна Казіміраўна свае ўрокі. Кожны ўрок мае сваю непаўторнасць і прыгажосць. Тут кожны вучань адчувае сябе асобай, мае магчымасць рэалізаваць свой творчы патэнцыял. Варта назваць такія распрацаваныя па яе методыцы заняткі, як "Скарбы роднага краю" (прысвечаны вуснай народнай творчасці), "Славутыя імёны Бацькаўшчыны", "Літаратура як від мастацтва", "Краязнаўчы калейдаскоп". Цікавы таксама ўрок па трылогіі Якуба Коласа "На ростанях". Аліна Казіміраўна — аўтар і арганізатар правядзення КВЗ у паралельных класах. Кожная каманда — удзельнік КВЗ — павінна прыдумаць сваю назву, дэвіз і абараніць іх. Праводзяцца і конкурсы. Напрыклад, да ўроку "Славутыя імёны Бацькаўшчыны": пазнаць па апісанні (па дзеяннях) героя; па свецкім імені дзеяча сярэднявечча ўспомніць яго царкоўнае імя; растлумачыць устарэлыя словы, апісаць архітэктурныя помнікі (Сафійскі сабор і інш.). Адметнай дэталлю КВЗ з'яўляюцца своеасаблівыя "рэкламныя паўзы". Напрыклад, на ўроку "Краязнаўчы калейдаскоп" — гэта характарыстыка прадметаў у музеі: "Калі ласка, гладышы выбіраем для душы" і іншыя даволі трапныя і вясёлыя распрацоўкі вучняў, што дапамагаюць развіваць іх творчую фантазію.

Аліна Казіміраўна як класны кіраўнік вядзе дзённік класа і альбом, які называецца "Летапіс класа" — з фотакарткамі і характарыстыкай вучняў — з пятага класа па выпускны. Дарэчы, двое яе былых вучняў, якія да гэтага часу не забываюць сваю настаўніцу, — члены знакамітай каманды КВЗ БДУ, якая нядаўна атрымала такую бліскучую перамогу ў Пецярбурзе, — Саша Дзямешка і Саша Раковіч.

Цікава праходзяць урокі-святы "Мой радавод", "Дзень памяці продкаў", "Прэзентацыя класа" (на бацькоўскім сходзе). Аліна Казіміраўна рэгулярна праводзіць са сваімі вучнямі экскурсіі па гістарычных месцах Беларусі: былі ў Заслаўі, Полацку, Міры, Нясвіжы, Брэсце, Гродна, Слоніме, Жыровічах, Віцебску, Оршы, у мясцінах, звязаных з імёнамі Я.Коласа і Я.Купалы — у Акінчыцах, Альбуці, Вязынцы. Пабывалі ў Дзяржаўным мастацкім музеі, а падчас святкавання 200-годдзя Адама Міцкевіча наведалі Навагрудак, возера Свіцязь. Не абмінулі і Бярэзінскі запаведнік, Белавежскую пушчу. Пасля наведвання славутых мясцін вучні пішуць творчыя сачыненні, у якіх дзеляцца сваімі ўражаннямі ад паездак.

Агульная справа спрыяе ўмацаванню сяброўскіх адносін у школе, яднае калектыў дзяцей. Да таго ж абуджае гонар за зробленае. А зроблена і сапраўды нямала — для беларускай культуры, для захавання спадчыны.

Што хочацца пажадаць надалей вучням і іх выдатнай настаўніцы? Бадай, найлепшым будзе прывесці пажаданне пісьменніка Уладзіміра Арлова, якое ён пакінуў у кнізе водгукаў пасля наведання этнаграфічнага музея сярэдняй школы №25:

Мы жывем у хаце,
Над намі жыве гарышча,
Над гарышчам — неба.
Высокага вам неба!

**Маргарыта ПРОХАР.**

## Трывалы сплаў маладосці і вопыту

***20 год таму ўпершыню пераступілі парог Вялічкавіцкай школы, што ў Салігорскім раёне, нашы настаўнікі. Маладыя, прыгожыя, поўныя ідэй і энергіі, яны прыйшлі сюды пасля заканчэння педагагічных ВНУ, каб падзяліцца сваімі ведамі з намі, вучнямі.***

***А пачыналася ўсё з голых сцен будынка, з голых памяшканняў... Дзякуючы арганізатарскім здольнасцям Аляксандра Іванавіча Вештарта быў створаны працавіты, творчы, дружны педагагічны калектыў. Забурліла, закіпела жыццё ў школе. Тамара Сцяпанаўна Тычына была тым чалавекам, які змог накіраваць вучнёўскую працу ў належным накірунку.***

Ініцыятарам і арганізатарам новых памкненняў, творчых задумак з'яўлялася і з'яўляецца Ніна Анатольеўна Морава — намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце. Яе энергіі можна толькі па-добраму пазайздросціць.

Нярэдка мы проста не заўважаем, як бяжыць час. 20 год! Зазірнуўшы ў летапіс школы, з гонарам можна сказаць, што яна "пражыла" гэты час недарма. А з чаго ўсё пачыналася, расказвае дырэктар школы Аляксандр Іванавіч Вештарт:

— Новы будынак школы здадзены ў эксплуатацыю ў жніўні 1980 года. Адразу перад школай паўсталі дзве галоўныя праблемы: забеспячэнне школы педагагічнымі кадрамі і набыццё інвентару, абсталявання, мэблі. Трэба было прывесці ў парадак будынак школы і інтэр'ер. Першая праблема вырашалася так: мы імкнуліся "спалучыць" моладзь з вопытам. Да нас былі накіраваны выпускнікі педагагічных ВНУ. Гэта былі настаўнікі, якія працуюць у нашай школе і сёння — Ж.М.Малаш, Л.А.Казімірчык, Н.Л.Стоцкая, Н.А.Морава, А.А.Мораў. Жанчыны, ці тады дзяўчаты, насілі іншыя прозвішчы. Тут, у Вялічкавічах, яны выйшлі замуж, атрымалі жыллё. Мы таксама запрасілі на працу вопытных настаўнікаў, якія дагэтуль працавалі ў іншых школах раёна. Гэта Т.С.Тычына, Н.М.Вештарт, В.Р.Галаваты, В.М.Будзько, А.А.Лагун. Практыка і ўся наша далейшая праца на працягу дваццаці год паказалі, што мы зрабілі правільную стаўку, правільны падыход на сплаў маладосці з вопытам.

Вырашэнне другой праблемы было складаным у тым плане, што дагэтуль не было школы ў пасёлку, была толькі пачатковая ў Вялічкавічах. Мы атрымалі голыя сцены, голыя памяшканні, неабходна было ўсё гэта абсталяваць. На жаль, у пачатку работы сутыкнуліся з праблемамі. Справа ў тым, што школу адкрылі як сярэднюю, а праект быў на васьмігадовую. Таму нам не хапала памяшканняў. Мы на працягу дваццаці год вымушаны былі займацца ў дзве змены. Гэта, напэўна, і ёсць самы вялікі недахоп.

У той час нам вялікую дапамогу аказала кіраўніцтва саўгаса "Прагрэс". Я сёння гавару з вялікай удзячнасцю пра Васіля Нікіфаравіча Бондара, які дапамог школе у забеспячэнні неабходным абсталяваннем, а таксама ў забеспячэнні работнікаў школы кватэрамі. Аказваў на той момант нам дапамогу і аддзел адукацыі. У першую чаргу яго загадчык Аляксей Андрэевіч Лопан. Але галоўная апора была тады на свае ўласныя сілы, на сілы нашых настаўнікаў.

— Цяпер, — працягвае А.І.Вештарт, — час іншы. І ўся праблема — у недахопе фінансавых сродкаў на самае неабходнае. Але мы не складваем рукі і вырашаем задачы, якія стаяць на сённяшні дзень. На працягу дваццаці год існавання школа была і зараз з'яўляецца далёка не апошняй у раёне. Мы займаем прызавыя месцы ў раённай спартакіядзе, на раённых турыстычных злётах, займаем дзесьці трэцяе-чацвёртае месца ў раённай алімпіядзе школьнікаў.

Мне, як дырэктару, запамінаюцца заўсёды вучні, якія чымсьці выдзяляюцца. У першую чаргу гэта вучні, якія добра вучацца, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці школы.

Многія нашы выпускнікі абралі прафесію настаўніка. Вось, напрыклад, былыя нашы вучаніцы, якія раней закончылі школу, затым адпаведныя навучальныя ўстановы, працуюць цяпер у школе. Гэта Святлана Віктараўна Царыкевіч — настаўніца геаграфіі, Ірына Мікалаеўна Праходская — сацыяльны педагог і Вольга Аляксандраўна Рудзеня — выхавацель групы прадоўжанага дня.

Завяршаючы расказ пра школу, дырэктар сказаў так:

— XXI стагоддзе — гэта, на мой погляд, стагоддзе ведаў, інфармацыі і навукі. Зыходзячы з гэтага, мы павінны арганізоўваць працу ў школе і арыентаваць сваіх вучняў. Я заўжды гаварыў вучням, што школа не для настаўнікаў, а для дзяцей. Я імкнуўся да таго, каб дзецям было цікава ў школе, каб яны з задавальненнем ішлі сюды, як ідуць у школу вучні першага (цяпер падрыхтоўчага) класа. На жаль, большасць вучняў старэйшых класаў страчвае інтарэс да вучобы і школы. Мы павінны імкнуцца да таго, каб вучні ішлі ў школу з радасцю. Менавіта такая школа павінна адпавядаць школе будучага: калі вучні ідуць у школу з ахвотай і калі настаўнікі працуюць з задавальненнем.

Усяго табе найлепшага, родная школа!

**Вольга ДАЛЕНКА,**
**вучаніца 11 "Б" класа**
**Вялічкавіцкай сярэдняй**
**школы Салігорскага раёна.**




Фота Юрыя БОНДАРАВА.



## Адбудзецца семінар

9 — 10 лютага на базе Акадэміі паслядыпломнай адукацыі адбудзецца семінар "Тэхналогія Дальтон-план у школах Рэспублікі Беларусь: стан і перспектывы".

Семінар рыхтавалі грамадскае аб'яднанне "Інавацыі ў адукацыі", Акадэмія паслядыпломнай адукацыі і Нацыянальны інстытут адукацыі.

**Тэл. 285-78-23.**

З пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі

## Да намечанай мэты — разам

***У Мінску адбылося сумеснае пасяджэнне Калегіі Міністэрства адукацыі і прэзідыума ЦК Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, на якім абмеркаваны вынікі Галіновага пагаднення на 1999 — 2000 гг.***

***З інфармацыяй па гэтым пытанні выступілі намеснік міністра адукацыі Г.Д.Дылян і старшыня ЦК прафсаюза Т.І.Чобатава.***

У выступленні Г.Д.Дыляна выразна адчувалася занепакоенасць зніжэннем узроўню дзяржаўнага фінансавання на адукацыйныя мэты, пагаршэннем матэрыяльнага становішча работнікаў сістэмы адукацыі і абвастрэннем праблемы з кадрамі.

Аналізуючы вынікі сумеснай работы, нельга не адзначыць яшчэ адну асаблівасць прайшоўшых двух гадоў, сказала Т.І.Чобатава. Калі для Міністэрства адукацыі гэта былі гады напружанай працы па рэалізацыі праграмных задач рэфармавання адукацыі, то для галіновага прафсаюза гэтыя гады супалі з правядзеннем III з'езда прафсаюза, у праграмных дакументах якога мы прапанавалі як галоўную задачу — дабівацца прыярытэтнасці адукацыі ў дзяржаўнай палітыцы, надзейнасці сацыяльных гарантый у базавым Законе аб адукацыі, і ў першую чаргу праз павышэнне ўзроўню зарплаты.

Неабходна адзначыць, працягвала выступоўца, што ў шэрагу рэгіёнаў Беларусі мясцовымі органамі ўлады прымаліся меры дадатковай падтрымкі работнікаў нашай галіны. Так, у Мінску на 1999 — 2000 навучальны год педагогам была ўстаноўлена даплата па тры "мінімалкі" штомесячна, выдзелены дадатковыя сродкі для заахвочвання і стымулявання творчай працы. У Мінскай вобласці ёсць прыклады станоўчага вырашэння жыццёвых праблем, у Віцебскай замацавана практыка паніжэння кошту праезду і харчавання для настаўнікаў. Ва ўсіх ВНУ Беларусі шырока выкарыстоўваецца пазабюджэтны фонд для павышэння ўзроўню аплаты працы.

У рамках Галіновага пагаднення паслядоўна ўдасканальвалася нарматыўная база галіны. Нядаўна прайшла рэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі новая рэдакцыя Палажэння аб атэстацыі педагагічных кадраў. Несумненна, што ўнесеныя змяненні будуць садзейнічаць гуманізацыі атэстацыйнага працэсу, дазволяць пазбегнуць кампанейшчыны і суб'ектывізму ў гэтай важнай справе, падкрэсліла Т.І.Чобатава.

У адпаведнасці з пагадненнем прафсаюз значнае месца ўдзяляў ажыццяўленню грамадскага кантролю за захаваннем працоўнага заканадаўства ва ўстановах адукацыі. За справаздачны перыяд у ходзе прафсаюзных праверак было прадухілена звальненне 55 работнікаў, дзяржаве вернута 84,3 млн. рублёў. На фоне паўсядзённага кантрольнага буму, які прыводзіць да стрэсаў, гэта адзіныя праверкі, па выніках якіх работнікі атрымліваюць як маральную, так і матэрыяльную падтрымку.

На жаль, у апошні час не-не ды і здараюцца выпадкі нізкага ўзроўню прававой культуры, які дэманструюць самі кіраўнікі ўстаноў. А ёсць прыклады, калі кіраўнік трапляе ў непрыемную сітуацыю, якую сам і стварыў. Так, адзін загадчык аддзела адукацыі ў свой час наважыў, каб у раённае пагадненне не была ўключана норма аб дачы прафсаюзам згоды на звальненне работніка, які з'яўляецца членам выбарнага прафсаюзнага органа, па ініцыятыве наймальніка. Калі ж па выніках праверкі быў падрыхтаваны загад аб звальненні яго самога па артыкуле, то раённае пагадненне абараніць яго не змагло. Але, на яго шчасце, ён аказаўся выбраным у ЦК прафсаюза, які не даў згоды на звальненне, і дзякуючы гэтаму ён застаўся на сваёй пасадзе.

Таму адной з важнейшых задач і надалей застаецца ўмацаванне ўсёй сістэмы пагадненняў і калектыўных дагавораў, недапушчэнне змяншэння сацыяльных гарантый у параўнанні з галіновым дакументам. Не менш важна таксама, каб пытанні выканання калектыўных дагавораў і пагадненняў знаходзіліся ў полі зроку органаў упраўлення адукацыі, сталі прадметам ведамаснага, а не толькі прафсаюзнага кантролю.

Як вядома, у справаздачны перыяд ускладнілася становішча з забеспячэннем работнікаў галіны жыллём. У чарзе налічваецца звыш 22 тысяч сем'яў. Пры цяперашніх цэнах іх становішча вельмі няпростае. Трэба шукаць шляхі хаця б частковага вырашэння гэтых пытанняў у самой галіне.

Наша размова была б няпоўнай, зазначыла Т.І.Чобатава, калі б мы не адзначылі яшчэ адну асаблівасць — гэта супярэчнасць паміж усё больш узрастаючымі патрабаваннямі да сістэмы адукацыі і прыкметным зніжэннем узроўню яе фінансавання, за якім — старэнне матэрыяльнай базы і падзенне жыццёвага ўзроўню. У такой сітуацыі вельмі цяжка спадзявацца, што адукацыі дапамогуць дэмаграфічныя ямы, якія звязаны з рэзкім скарачэннем нараджальнасці дзяцей.

Прафсаюз занепакоены таксама становішчам з аплатай працы ў галіне, суадносінамі зарплаты з мінімальным спажывецкім бюджэтам. У незайздросным становішчы апынуліся маладыя спецыялісты. Яны не даязджаюць да месца працы па размеркаванні. І зразумела, чаму: зарплата маладога спецыяліста складае 25 тысяч рублёў. А на рукі яму не выходзіць і дваццаці тысяч. Усе вышэй адзначаныя прычыны адмоўна адбіваюцца на кадравым забеспячэнні сістэмы адукацыі. Узмацняецца адток настаўнікаў і выхавацеляў. На пачатак навучальнага года вакантнымі заставаліся 1688 ставак настаўнікаў і выхавацеляў, 1095 спецыялістаў не з'явіліся на месца працы па размеркаванні. У школах працуюць 6760 настаўнікаў пенсійнага ўзросту і 1140 студэнтаў.

Удзельнікі сумеснага пасяджэння называлі і іншыя недахопы, якія патрабуюць ухілення, унеслі шэраг дзелавых, канструктыўных прапаноў, якія будуць улічаны ў далейшай дзейнасці.

Разам з тым хацелася б адзначыць, што за справаздачны перыяд Міністэрствам адукацыі завершана распрацоўка асноватворных для далейшага развіцця дакументаў, праведзена неабходная работа па выкананні галіновых комплексна-мэтавых праграм, якія прыняты па выніках I з'езда настаўнікаў Беларусі. Ажыццёўлен шэраг мер па сацыяльнай падтрымцы работнікаў галіны. Уведзены павышаючыя каэфіцыенты да 1,4 асобным катэгорыям работнікаў ВНУ, а таксама работнікам, якія тарыфікуюцца з 1 па 22 разрады. Павялічаны сродкі на прэміяванне з 10 да 20 працэнтаў. Павялічаны стаўкі і службовыя аклады за стаж работы па спецыяльнасці (у галіне) з 20 да 30 працэнтаў. Ажыццяўляецца павышэнне ўзроўню заработнай платы з улікам кваліфікацыйных катэгорый да 30 працэнтаў і за работу ў інавацыйным рэжыме да 20 працэнтаў і інш.

Абодва бакі сістэматычна аналізавалі сацыяльна-эканамічнае становішча працуючых у галіне і ўносілі сумесныя прапановы ў вышэйстаячыя органы па паляпшэнні матэрыяльнага становішча работнікаў і іх прававой абароненасці. Падрыхтаваны сумесныя прапановы ў праект Закона "Аб адукацыі", Канцэпцыю і новыя ўмовы аплаты працы, Генеральнае пагадненне.

Праект пагаднення на 2001 — 2003 гады распрацаваны з улікам новага працоўнага заканадаўства, абмеркаваны на пасяджэнні Галіновага савета па сацыяльных і працоўных пытаннях і рэкамендаваны для падпісання бакамі.

Па абмеркаваным пытанні Калегія Міністэрства адукацыі і Прэзідыум Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі прынялі адпаведную пастанову.

Рэпартаж

## Возьмемся мацней за рукі, сябры!

***У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка адбылася сустрэча кіраўнікоў гэтай установы з бакалаўрамі і магістрамі былых гадоў выпуску. Рэктар універсітэта Леанід Нікanоравіч Ціханаў выступіў з прамовай.***

Вельмі складана вырашалася падрыхтоўка кадраў новага ўзроўню, зазначыў рэктар. Але сістэма шматузроўневай падрыхтоўкі пачала працаваць ва ўсю сілу. Мы ўкаранілі яе невыпадкова. Мы бачылі, што ва ўсім свеце вядуцца пошукі ўдасканалення адукацыйных сістэм, ідзе рэфармаванне.

На гэтай сустрэчы мы хацелі б атрымаць адказы на некаторыя пытанні наконт структурных змяненняў у сістэме падрыхтоўкі, запатрабаванасці спецыялістаў новага ўзроўню і параіцца, што рабіць далей. Мы добра разумеем, што шматузроўневая падрыхтоўка яшчэ далёкая ад дасканаласці, але свядома пайшлі на адмаўленне ад агульнаеўрапейскіх стандартаў.

Агульнаеўрапейскі стандарт не ўсюды сябе апраўдаў, ён не вельмі падыходзіць да ўсходнееўрапейскіх краін, не заземлены на канкрэтныя спецыяльнасці, а таму і не запатрабаваны на практыку. Вопыт найбольш прэстыжных маскоўскіх ВНУ пацвердзіў гэта.

Мы ведаем слабыя месцы ў падрыхтоўцы такіх спецыялістаў і стараемся зрабіць усё, каб спажыўцы былі гатовы да іх прыёму. Мы завяршылі працэс структурнага афармлення сістэмы шматузроўневай падрыхтоўкі, распрацавалі стандарты па ўсіх спецыяльнасцях, склалі навучальныя планы, завяршылі распрацоўку праграм.

Гатовы весці падрыхтоўку па ўсіх спецыяльнасцях, прымеркаваных для абслугоўвання дзяцінства. Аднак самае цяжкае, што засталося, гэта стварэнне матэрыяльнай базы, якая забяспечвае рэалізацыю планаў. На ранейшай базе, на састарэлай базе шматузроўневая сістэма функцыянаваць не зможа. Цяпер патрабуецца зусім іншы стэрэатып мыслення выкладчыка.

На жаль, на гэты час у нас няма ніводнай бібліятэкі, якая б адпавядала сучасным патрабаванням. Сабраць кнігі — гэта яшчэ не значыць стварыць бібліятэку. Сучасная бібліятэка павінна быць адпаведным чынам тэхнічна аснашчана. Пры цяперашнім фінансаванні ажыццявіць гэта не проста. Тым не менш мы ставім перад сабой задачу стварыць цэлую сетку аўдыторый, чытальных залаў, аснашчаных сучаснай тэхнікай. Галоўнае — стварыць у грамадстве атмасферу разумення ўзнятых праблем. Аднак сітуацыя абвастраецца тым, што сутыкаюцца розныя пункты гледжання на гэтыя праблемы, і ў прыватнасці на сістэму фарміравання асобы. Сітуацыя абвастраецца на ўзроўні людзей, якія вырашаюць лёс адукацыі. Многія лічаць, што камп'ютэрызацыя завядзе ў тупік. І не дай Бог, калі на бюракратычны стол лягуць дакументы, якія падтрымаюць такі пункт гледжання.

Час патрабуе па-іншаму зірнуць на сістэму адукацыі, на камп'ютэрызацыю. Гэта сістэма падабаецца нашаму студэнту, зацікаўлівае яго.

Ёсць і яшчэ моманты, якія насцярожваюць. Нядаўна ў Валожынскім раёне адбылася сустрэча кіраўніцтва універсітэта з трыццаццю выпускнікамі БДПУ. У іх многа праблем, якія трэба вырашаць. Але бяда ў тым, што яны неяк не настроены, каб вырашыць іх. А чаму — гэта ўжо пытанне для роздуму.

Не магу не сказаць і пра тое, што больш за ўсё ўразіла мяне ў амерыканскай школе. Там выпускнік навучальнай установы застаецца членам гэтага калектыву на ўсё жыццё, падтрымлівае з ім цесныя сувязі і атрымлівае належную дапамогу, калі ў гэтым ёсць патрэба, ці, наадварот, можа ўнесці папячыцельскі ўзнос сваёй альма-матэр, як гэта зрабіў адзін з яе выпускнікоў. Ён падарыў навучальнай установе 25 мільёнаў долараў. Мы к гэтай практыцы прыйдзем, відаць, крыху пазней.

Цяпер мы вядзем гаворку ў сваім універсітэце аб стварэнні такога папячыцельскага савета, які б падтрымліваў выпускнікоў і арганізоўваў папячыцельскую дапамогу сваёй ВНУ.

Давайце возьмемся мацней за рукі, сябры!

На гэтай узвышанай ноце была закончана прамова Л.Н.Ціханава, рэктара буйнейшай на Беларусі навучальнай установы, якая налічвае цяпер 16500 студэнтаў. А гэта азначае, што па колькасці студэнтаў БДПУ ідзе ўпоравень з БДУ і нават апераджае політэхнічную акадэмію. А пасля стварэння бакалаўрыята і магістратуры БДПУ набыў яшчэ большую вагу.

Развагі пра магістратуру прадоўжыла прафесар кафедры педагогікі Клара Ўсеваладаўна Гаўрылавец.

— У магістратуры пануе асаблівая атмасфера, атмасфера высакародства, чысціні, інтэлігентнасці. Яна праяўляецца ва ўменні слухаць і наладжваць кантакт з аўдыторыяй. Тут столькі духоўнай высветленасці і ўзнёсласці, што знаходзіцца ў такім асяроддзі — сапраўднае шчасце. Тут ідзе ўзаемнае духоўнае абагачэнне як студэнтаў, так і выкладчыкаў. Пасля ўзаемін з магістрантамі кожны раз выходзіш з аўдыторыі крыху не такім, як увайшоў. Тут ствараецца новы кантынгент людзей, маладых вучоных, духоўнай эліты, дзякуючы якой дзяржава набывае магутны патэнцыял, без якога немагчыма развівацца пастyпальна. Гэта наша надзея, якую трэба песціць і ўсялякім чынам падтрымліваць.

Магістры і бакалаўры (дарэчы, усе яны працуюць у школах ці ў навуковых установах) у сваіх выступленнях таксама адзначалі выключна новы стыль узаемін у новым асяроддзі як між сабой, так і з выкладчыкамі. Яны з цеплынёй гаварылі пра універсітэцкіх настаўнікаў. Не менш прыемна было чуць цёплыя словы з вуснаў удзячнага магістра, кандыдата педагагічных навук, выкладчыцы БДПУ Анжэлы Барысевіч у адрас творчых кіраўнікоў дысертацый Адама Антонавіча Грымаця і Дамініка Іванавіча Вадзінскага, якія пайшлі з жыцця ўжо, але пакінулі пра сябе добрую памяць.

На развітанне Леанід Ніканоравіч Ціханаў сказаў сваім элітным выпускнікам:

— Сустрэча з вамі для мяне — самае радаснае ва універсітэце мерапрыемства.

І як бы між іншым дадаў: "Наступіла дваццаць першае стагоддзе — стагоддзе інтэлекту. Вам несці ў яго свае светлыя думкі і веды. Веды — гэта той багаж, які нікога не абцяжарвае. Яны заўсёды будуць з вамі незалежна ад вас, і заўсёды будуць працаваць на вас, на айчыну.

**Пятрусь ЮДО.**

